# Ніва

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 33 (235) | ГОД VI | БЕЛАСТОК 13 ЖНІЎНЯ 1961 ГОДА | ЦАНА 60 ГР.

Язэп ПУШЧА

## ЖЫТНІ КОЛАС

Гэтым летам, а не калісь,
Рос і вырас жытні колас
На радзімай ніве вольнай,
На шырокай, на раздольнай.

Красаваў і наліваўся,
Над зямлёю нахіляўся.
Сокамі зямля паіла,
І брадзіла ў зернях сіла.

Ядраны, цяжкі, як з бронзы,
Загарэў, прыкрыў барозны.
Не было такіх ніколі
На ўраджайным нашым полі.

Не было й нідзе на свеце,
Толькі ў нас у гэтым леце.
Дзіву дзівімся ды й годзе, —
Хай штогод так нівы родзяць.

І на яве, а не ў казцы,
Яшчэ казку трэба скласці
І расказваць на ўвесь голас
Пра цудоўны жытні колас.

Сонца грэе, колас спее,
Пошум жытні ў летнім спеве.
Каласіста — шумнай ніве
Нізка кланяецца жнівень.

Цешыць поле залатое.
Дзякуй, роднае, за тое,
Што ўрадзіла гэтак шчодра.
З хлебам жыць на свеце добра.

## НОВЫ ЗАХАПЛЯЮЧЫ МАРШРУТ У КОСМАСЕ

Звыш 17 раз абкружыў нашу Зямлю маёр Герман Цітаў на касмічнай ракеце «Усход — 2». Савецкі Саюз пралажыў новы шлях у Космас. 25 гадзін 18 мінут касмічнага падарожжа! Звыш 700 000 км! Гэта цудоўны маршрут, які адкрывае перад чалавецтвам новыя вялікія магчымасці ў касмічных палётах.

Гэта магутнае дасягненне навукі і тэхнікі збеглася з апублікаваннем праекта Праграмы Камуністычнай партыі Савецкага Саюза і праекта новага яе Статута. Яшчэ свет не астыў з захаплення ад цудоўнай перспектывы развіцця сацыялістычнага грамадства, якая навукова выказана ў праекце новай праграмы партыі Савецкага Саюза, а ўжо хвалюецца новай незвычайнай падзеяй.

Палёт новага савецкага касманаўта з'яўляецца найлепшым доказам таго ўзроўню, які асягнуў Савецкі Саюз у развіцці навукі, тэхнікі і сучаснай прамысловасці. Гэта доказ магчымасцей і перспектыў савецкай краіны і сацыялізма.

Нашае грамадства з вялікай радасцю прывітала новае дасягненне Савецкага Саюза і шле савецкім людзям сардэчныя пажаданні ў новых перамогах на карысць чалавецтва.



Кампазітар Яўгені Цікоцкі (Да артыкула на стар. 2)

НАШЫ ІНТЭРВ'Ю

## СЕЛЬСКАГАСПАДАРЧАЯ ПАДРЫХТОЎКА МАЛАДЫХ

Намаганні дзеля павышэння ўраджайнасці палёў і павелічэння аграрнай культуры наогул патрабуюць індывідуальнасці ад сельскагаспадарчай службы, вясковай інтэлігенцыі і арганізацый, полем дзеяння якіх з'яўляецца вёска. У перабудове аграрнай культуры вялікую ролю адыгрывае моладзь і яе вясковая арганізацыя Саюз сельскай моладзі, яго супрацоўніцтва з прафесіянальнай сельскагаспадарчай службай. Адным з фактараў дзейнасці ССМ сярод сваіх членаў, а пры іх дапамозе і сярод усёй вясковай моладзі, з'яўляецца арганізацыя і вядзенне пры цесным супрацоўніцтве з павятовымі саюзамі сельскагаспадарчых гурткоў аб'яднанняў сельскагаспадарчай падрыхтоўкі. Нас цікавіла, як гэтая справа прадстаўляецца ў Сакольскім павеце. Гутарым са старшынёю Павятовага праўлення Саюза сельскай моладзі ў Сакольцы тав. Пятром Дабжынскім.

**— Аб'яднанні сельскагаспадарчай падрыхтоўкі з'яўляюцца, як вядома, найбольш эфектнай формай распаўсюджвання сельскагаспадарчай асветы, а перш за ўсё, практыкі сярод моладзі. Вы, думаю, будзеце з гэтым згодны. Як ацэньваеце сельскагаспадарчую падрыхтоўку моладзі павета наогул?**

(Працяг на стар. 4)



БЕЛАСТОК НОЧЧУ. Рынак Касцюшкі — фантан. Фота: Аляксей Казберук

Барыс Сачанка

# ПА ГРЫБЫ

Будзяць рана, як толькі ноч пабялее на ўсходзе. Расплюшчваеш вочы, і ў першую хвіліну не ведаеш, дзе ты. Потым бачыш маці, якая схілілася над ложкам, і адразу ж успамінаеш, што ўчора збіраўся ў лес па грыбы.

Борздзенька нацягваеш на сябе кашулю, штаны, — ногі не трапляюць у калошы, — і злуешся. Пасля бяжыш да вядра, плюхаеш у твар халоднай вадою, кідаеш у кішэнь акраец хлеба, нож і спяшаешся ў лес.

Усюды плавае нізкі, мутны туман. Праз яго не бачыш ні кустоў, ні дарогі. Птушкі прачнуліся ўжо. Цёхкае салавей, прысвістае дрозд, і, як заўсёды, укладае некага спаць перапёлка. Палахліва глядзіш на пясок: ці не апярэдзіў цябе хто?

У лесе змрочна і сыра. Ад прахалоды сцінаешся і ўздрыгваеш. Але не спыняешся, а імчыш яшчэ прутчэй. Неўзабаве зварочваеш з бітай дарогі і ступаеш па мокрым і мяккім леташнім лісці. Яшчэ цемнавата.

Выбіраеш роўненькі пянёк дзе - небудзь ля крынічкі ці светлага буркатлівага ручая, п'еш ваду, проста лежачы жыватом на зямлі. Потым жуеш хлеб, — ён свой, хатні, спечаны на зялёным дубовым лісці, і ад таго вельмі пугкі і мяккі. Калі ад акрайца астаецца невялічкі кавалачак мякішу, чуеш недзе збоку доўгае і гучнае: «Ау-у-у!»

Падхопліваешся на ногі і, забываючы на ўсё, бяжыш, колькі ёсць сілы, каб абагнаць ранняга грыбніка.

Трапляеш на адно грыбовішча, на другое і бачыш усюды карэнні. Тоўстыя і свежыя, вось - вось зрэзаныя — з іх выступілі кропелькі ліпкага поту. І не адзін, не два, а цэлая крушня карэнняў. Ай-я-яй!.. Гэта ж нехта пабраў грыбы, якія мог пакласці ў свой кашэль ты. Сэрца пачынае трывожна біцца, зіркаеш па баках. І, ужо не зважаючы ні на пні, ні на хмыз, што ўсюды трапляецца пад ногі, бяжыш далей. Разоў колькі спатыкаешся, падаеш, але падхопліваешся і зноў бяжыш.

А галасоў усё больш і больш. Яны ўжо чуюцца не толькі ззаду, але і наперадзе, — ад іх аж галосіць лес.

— Ауу!..

— Уаа!..

І тады ў галаву прыходзіць думка: усіх грыбнікаў не абгоніш. Сцішаеш хаду і пільней глядзіш сабе пад ногі. Ля кожнага натапыранага ліста, ля кожнага кусціка і купінкі.

Нечакана як не спатыкаешся аб грыб. Ён ядраны і ганарысты, з насунутай на самую патыліцу шапкай. Задавака! Але па даўнішняй завядзёнцы, — хто яе выдумаў? — плюеш тры разы на ліст, каб грыбы цябе не баяліся і не ўцякалі.

Ужо ўзыходзіць сонца. Лес увесь у расе, блішчыць. З імшарын падымаецца пара, а туман сунецца ў гусцяжы.

У ботах даўно чвякае, анучы намоклі і збіліся пад ступнёю ў цвёрды клубок. Калошыны штаноў папрыліпалі да кален і гучна шастаюць. Але чым далей у лес, тым болей грыбоў. Дзе-небудзь пад кашлатаю бярозкаю альбо сасонкаю прысядзеш і адразаеш корань першаму баравіку. Хвілін праз колькі бачыш яшчэ адзін, потым яшчэ. А там і пайшло: толькі нагінайся ды паспявай браць. Бярэш адны баравічкі, маладыя, белыя; казлякоў можна нарэзаць і пасля — імі вунь усюды аж кішыць лес.

Праз нейкі час адварочваешся, каб пакласці ў кашэль яшчэ адзін баравік і не верыш вачам сваім — усё днішча ўжо ўкрыта грыбамі: белымі, паджарымі, з чорнымі, тоўстымі шапкамі і зусім малюсенькімі карпунцамі.

Ля даўным - даўно паваленага і зарослага ўжо маладняком дуба трапляеш на неруш.

Грыбы сядзяць усёю вялізнаю сваёю сям'ёй, бы на якой радзе, і, здаецца, слухаюць, аб чым бае старэйшы іх роду — асабліва зялёны баршчавік, што падпёрся на маладзенькую бярозку: баіцца пад старасць упасці. Каб ніхто не перашкодзіў, вырываеш усе баравікі з карэннямі і зносіш іх у адну кучу да кашаля дзе-небудзь на купінку. Потым садзішся на ўколенкі, асцярожна ашкрабаеш ад пяску карэнні, абразаеш, — яны белыя, тугія, значыць, грыбы пачаліся і ўжо будуць да самай глыбокай восені. Старыя, жоўтыя кладзеш пад спод, а белыя, ядраныя і найбольш хвацкія, наверх, — хай кожны, хто іх убачыць, зайздросціць!

Ходзіш па лесе яшчэ з паўгадзіны. Глядзіш ці высока паднялося сонца, азіраешся, дзе ты, і паварочваеш назад. Топчаш ягаднік, верас, дыбіш ботамі не зляжалае сучча. І цяпер заўважаеш, як пахне ў лесе. Дубовай карой, грыбамі, лісцем, зямлёю. І здаецца, нават пахне раса...

Ставіш зноў кашэль на зямлю і выразаеш сухія і нягнуткія пруткі — імі распіраеш кашэль, каб улезла болей грыбоў. Заадно цярэбіш і два тонкія хлёсткія дубчыкі — на іх будзеш нізаць тыя баравікі, што не ўмесцяцца ў кашэль.

З лесу выходзіш радасны, з поўным кашалём і двума доўгімі і важкімі маністамі ў руках. Наганяеш каго-небудзь з вёскі і пытаеш, заглядаючы да яго ў кошык:

— Ну, як?

І вочы разбягаюцца: табе здаецца, што твае грыбы горшыя. Але праз хвіліну супакойваешся: бачыш, як прыкусвае чалавек губу. Ага!..

А сонца паднялося ўжо высока і мкне ў самы вільчак неба. Пачынае парыць, — мусіць, зноў пасля паўдня пойдзе дождж, цёплы, з бліскавіцамі, з грымотамі. Пяюць, заліваюцца ўсюды птушкі — у іх свая радасць і надзея.

З-за пагорка вынырае вёска, — яна прыляпілася да пясчанай выспы, — і толькі недзе, аж у тым канцы, на лугавіне, відно, як усё яшчэ коціцца на лес туман. Чуваць, як паблізу, за бярэзнікам, скубуць траву каровы і іржэ жарэбчык, — яго зычнае і глухое іга-га-га дробна нясецца па росах, і мусіць ад гэтага дрыжаць, хіляцца да зямлі травінкі.

А ў вачах ужо маці, якая нагнулася над кашалём (яна збіраецца саджаць у печ грыбы), і сама печ, якая смачна пахне свежай падпражанаю саломаю і пшанічнымі аладкамі...

**Фальклор Беласточчыны**

## ГОРА МАЁ

Матуля, матуля,  
На што ўзгадавала?  
А якой пацехі  
З мяне дачакала?

Гора ж маё, гора,  
Не развеялюся.  
А я з таго гора  
Пайду утаплюся.

Спяваў бы, спяваў бы —  
Ды не маю ноты,  
Танцаваць пайшоў бы, —  
Парваныя боты.

Узяў бы, падвязаў бы —  
Дзяўчаты смяюцца.  
Пасталы ўзяў бы —  
Аборы вязуцца.

Гора ж маё, гора,  
Не развесялюся.  
А я з таго гора  
Пайду утаплюся.

**Запісаў: Павал Грыгарук з Галадоў ад маці**

## ПРЫПЕУКІ

Жыта маё всякае  
Сыплецца з меха.  
Мая жонка малада,  
Аж бярэ уцеха!

Ты ж мой, ты ж мой,  
Ты мне не чужы!  
І я цябе люблю,  
Што ты малады.

Ты ж мая, ты ж мая,  
Ты ж мне не чужая!  
Я ж цябе люблю,  
Што ты маладая.

Стуку - стуку дзверцы,  
Едуць кавалерцы.  
Сучачка: «ях - ях - ях!»  
Мае сэрца: «тах - тах!»

Ты да мяне, я да цябе,  
Болей да нікога.  
Любі мяне, а я цябе,  
А болей нікога.

**Запісаў М. Панфілюк з Дубіч Царкоўных ад сваёй маці Марыі (51 год)**

— Пагасцяваць? Ну — ну... Я, дачка, папярэдзіць цябе зашоў: хутка за вамі прыдзе адна жанчына і перавязе вас у іншае месца.

Шурынаў спытаў:

— Куды ты надумаўся адправіць іх?

— Далей, Іван. Тут заставацца нельга: фашысты...

Але цесць перабіў яго:

— Ды што ты ўбіў сабе ў голаў! Няўжо яны будуць ваяваць з дзяцьмі?

Ліза, узяўшы бацьку за руку, таксама папрасіла:

— Калі можна, татка, не забірай нас адсюль...

Мінай чулліва пагладзіў дзяўчынку па галаве:

— Трэба, дачушка. Інакш нельга. Ён зноў абняў Лізу і раптам злавіў сябе на думцы, што бачыць дачку, магчыма, у апошні раз. Пераадолеўшы гатовы ўспыхнуць страх, ён сказаў як можна спакайней:

— Збірайся ў дарогу, Лізанька. А кончыцца вайна, і зноў будзем усе разам.

Сказаў так — і пашоў у глыбіню

59

лесу. Ліза з трывогай глядзела ўслед бацьку. Галінка берасклета, якую выпадкова крануў ён рукой, закалыхалася і замерла, быццам і не было тут толькі што самага дарагога для дзяўчынкі чалавека.

*

— Гэта проста жудасць, што так дзеецца! — паспешліва расказваў маленькі, худы, з вогненымі кучарамі хлопчык, адзеты ў доўгі, з чужога пляча пінжак. Яго босыя, сінія ад холаду ногі былі пакрыты цыпкамі, у вялікіх сумных вачах застыў страх.

Хлопчыка звалі Лёвай Сегаль. З яго расказу партызаны даведаліся аб зверствах фашыстаў у суражскім гета.

Расказ Лёвы быў спынены з'яўленнем Краўца. Ураджэнец Каўказа, нядаўні чырвонаармеец, а цяпер зухаваты партызан, ён падышоў да Міная, выцягнуўся і казырнуў:

— Дазволь далажыць, бацька? У лагер з'явіўся Жыльцоў. Можна ўпусціць?

— Зразумела! Колькі раз гаварыў: Жыльцова прапускаць без даклада!

60

— Ёсць!

Праз некалькі мінут Арцём Жыльцоў падышоў да кастра.

— Дрэнныя весткі, Піліпавіч: у Цімохах разгромлена ваша харчавая база.

— Калі?

— Учора на світанні. Цэлы дзень машынамі вазілі. «Цяпер, — хваставўся Фаменкаў, — Мінай з голаду здохне».

— Значыць яго работа?

— А чыя ж? Ён і Чапельнікава прадаў.

— Чапельнікава?!

— І яго, і нейкага чырвонаармейца, які ўцёк з палону, павесілі па даносу Ваські. Баюся, — дадаў Жыльцоў, — як бы ён да мяне не дабраўся...

Мінай задумаўся. Шмат паспеў ужо напаскудзіць Васька Фаменкаў. Па яго віне загінуў гарачы і адданы справе Абраменка, ён выдаў Буліна і невядомага чырвонаармейца.

— Трэба злавіць Фаменкава, — жорстка сказаў Мінай. — Злавіць і знішчыць!

— А як? — усумніўся Жыльцоў...

61

— Асцярожны, гад...

— Што? Як знішчыць? Дык гэта ж вельмі проста! — вырвалася ў Лёвы.

Усе здзіўлена паглядзелі на яго.

— Вы помніце дом Фалькінштэйна? — працягваў хлопчык. — Той самы, што каля ваенкамата? Дык вось, Фалькінштэйн уцёк з Суража, але Фаменкаў злавіў яго і здаў каменданту. Фалькінштэйна яны павесілі, а Фаменкаву аддалі яго кватэру.

— І што ж ты прапануеш? — сур'ёзна, бы ў дарослага спытаў у Лёвы Дукарэвіч. — Дык дом Фалькінштэйна побач з Базарнай плошчай, з камендатурай...

— Што ж такога? Я ведаю там кожны куточак. Пашліце са мною некалькі байцоў, і я давяду іх да самага ганка — бярыце вашага Фаменкава!

— Бацька, пашлі мяне на гэту справу! — горача сказаў Кравец. — Мяне і Вяткіна — мы яго ціха, пагорскі, чык-чык і гатова.

(Працяг на стар. 7)

62

# ТРЫ ПУШЧАНСКІЯ ВЁСКІ

На палях сярод зялёных сцен Белавежскай пушчы расселіся тры сапраўды пушчанскія вёскі: Пагарэльцы, Цераміскі, Буды.

Высмуклыя сосны, шыракаплечыя дубы, плаксівыя бярозы, невыказаны словамі арамат лесу, чыстае бальзамічнае паветра, непаўторная лясная песня, спакой, заціша, утульнасць — ці ж можна яшчэ чаго - небудзь жадаць? А жыхары пушчанскіх вёсак жадаюць. І маюць поўную рацыю. З кім бы не гаварыў тут, кожны прызнае, што прыгожа, што спакойна, што курорт, але і кожны сцвярджае: «свет дошкамі забіты». Пытаю, ці часта хто сюды заглядае. Дзе там, — адказваюць. — Хіба часам зборшчык да тых, хто не сплачвае падаткаў.

Казачная дарога, з навешанымі галінамі дрэў, злучае вёскі. Мог бы ёю праходзіць добры турыстычны шлях з астаноўкаю ў Церамісках ці Будах. Шлях такі меў бы двайную карысць: ажывіў бы вёскі і турыстам даў бы многа ўражанняў.

А тым часам у пушчанскіх вёсках спакой, і яшчэ раз спакой. У Цераміскі раз у месяц прыязджае кіно. Тутэйшым жыхарам здаецца, што гэта вельмі рэдка, тым больш, што іншай разрыўкі няма.

Я пытаюся, якая моладзь у вёсках, колькі яе.

— У нас многа моладзі, — гавораць, напрыклад, у Церамісках. Крыху крыўдуюць, што кіраўнік школы не дазваляе ў школе рабіць забаваў.

А школа ў Церамісках (вучацца тут дзеці з усіх трох пушчанскіх вёсак) прыгожая, пабудавана дзяржавай пасля вайны, 7-класная. Кіраўнік школы — Тадэуш Вішнеўскі — родам з гэтай жа самай вёскі. Пытаю, ці добра працаваць сярод сваіх. Адказ цікавы і характэрны. «Свае лепш разумеюць, але горш памагаюць: чужыя — горш разумеюць, але лепш памагаюць». Гаворыць і аб забавах у школе. Школьныя ўлады забараняюць адводзіць школы для публічных забаваў дарослых з гарэлкай, а то, чаго добрага і з бойкай. Кіраўнік у Цераміскіх адабрае такое пастанаўленне. Школа з'яўляецца школай. І слушна.

Вёска Буды, напрыклад, пабудавала грамадскім чынам святліцу, якая пакуль што яшчэ не з'яўляецца культурным цэнтрам вёскі — служыць толькі для забаваў. Цераміскі таксама маглі б падумаць аб святліцы.

— Глухавата ў вас, калі разыходзіцца аб культурнае жыццё. А ці настаўнікі вашай школы не спрабавалі арганізаваць які мастацкі гурток? — пытаю.

Тадэуш Вішнеўскі адказвае, што ён сам браўся за гэта. Арганізаваў 2 гады таму назад драмгурток, хацеў з ім працаваць (любіць такую працу), але належнай ахвоты да працы не было з боку самай цераміскаўскай моладзі. Часткова няўдача і ў тым была, што кіраўнік школы не знайшоў падтрымкі з боку іншых настаўнікаў, дакладней — настаўніц школы. Быў сам. Зараз гуртка ніякага няма, а моладзь ёсць, і моладзь, якая многа магла б зрабіць, каб пушчанскія вёскі не былі «светам забітым дошкамі».

Схіляецца к вечару. Пакідаю новыя хаты пушчанскай вёскі (за акупацыі ўсе гэтыя вёскі былі вывезены і спалены да тла) і пушчанскіх людзей. Апошняя астаноўка на панадворку Антона Палешука. Будуе хату з... дроў. Чаму? Дрэва дарагое і цяжка атрымаць (ашчаднасць), а з дроў можна збудаваць танна. Гаворыць мне, што хата на 2 пакоі з кухняй з дроў будзе каштаваць палавіну той вартасці, якую трэба было б улажыць на падобны дом з дрэва. Нават без тынку зруб цешыць вока сваімі кружочкамі. Атрымліваю на памяць здымак, вось гэты. Тады яшчэ было менш збудавана.



ВЕРА ЛЕЎЧУК

# СЕЛЬСКАГАСПАДАРЧАЯ ПАДРЫХТОЎКА МАЛАДЫХ

працяг са стар. 1

— Актыў нашай арганізацыі цесна супрацоўнічае з павятовым саюзам сельскагаспадарчых гурткоў адносна пашырэння сельскагаспадарчай падрыхтоўкі нашай моладзі. І, так сказаць, форум дзеяння ў гэтай галіне з'яўляюцца гурткі — аб'яднанні сельскагаспадарчай падрыхтоўкі. Да іх належаць перш за ўсё практычныя мерапрыемствы, якія маюць часткова даследчы характар. Сельскагаспадарчую асвету пашыраецца ў нас шляхам арганізацыі і вядзення школ сельскагаспадарчай падрыхтоўкі. Да нашых сяброўак і сяброў у вёсках належыць зараз многае. Змест гэтага такі: што, каб пераконваць і вучыць сваіх бацькоў дзеля лепшага гаспадарэння і займаць іх месцы, трэба шмат чаго ведаць і то практычна. У нашым павеце справа арганізацыі аб'яднання сельскагаспадарчай падрыхтоўкі сярод моладзі прадстаўляецца нядрэнна. І важнае, што моладзь горнецца пашыраць свае практычныя веды, абапіраючы іх на ведах тэарэтычных, якія здабываецца ў школах сельскагаспадарчай падрыхтоўкі.

**— Колькі маеце гурткоў — аб'яднанняў у павеце?**

— Маем 41 аб'яднанне сельскагаспадарчай падрыхтоўкі. У іх налічваецца 404 удзельнікаў, сяброўак і сяброў. Да канца бягучага года плануем арганізаваць яшчэ 26 аб'яднанняў сельскагаспадарчай падрыхтоўкі. Існуюць для гэтага спрыяльныя ўмовы і магчымасці ў шматлікіх вёсках.

**— Перадавыя аб'яднанні і іх удзельнікі?**

— Многа маем аб'яднанняў на тэрыторыі павета, праца якіх заслугоўвае на пахвалу. Перш за ўсё гэта будуць: у Хадароўцы (аб'яднанне ІІІ-ій ступені), Астрынцы (удзельнікі абодзвюх займаюцца гадоўляй пародзістых свінаматак), у Старой Каменцы (спецыяльнасць — вырошчванне бульбы). Ад удзельнікаў гэтага аб'яднання мы спадзяемся многа добрага, бо яны сапраўды ўзяліся за працу. А вось некалькі перадавых удзельнікаў з паасобных аб'яднанняў: Яўгенія Гелажын з Кумялы, Юрка Юркоўскі з Васілёўкі, Браніслава Крутуль з Вылудзеў, Варвара Сенко з Астрынкі, Яўгень Дэраш з Лублянкі, Рамуальд Друць з Мінкоўцаў. Калі я пры Мінкоўцах, дык варта аб іх сказаць больш. Існуе тут добра працуючы гурток ССМ. Моладзі шмат і яна актыўная, прымае ўдзел у грамадскіх чынах. Духовым кіраўніком моладзі ў Мінкоўцах з'яўляецца настаўнік мясцовай школы Станіслаў Катоўскі. І менавіта пры яго актыўнай дапамозе вясною арганізавана ў Мінкоўцах аб'яднанне сельскагаспадарчай падрыхтоўкі (17 удзельнікаў). Амаль кожны ўдзельнік залажыў у сябе вопытнае палетка бульбы. Вядзецца тут дакладныя запіскі з назіранняў сваіх палеткаў. Я хацеў бы, каб больш было такіх настаўнікаў, як Станіслаў Катоўскі.

**— Хіба вы плануеце зрабіць падсумаванне працы аб'яднанняў сельскагаспадарчай падрыхтоўкі. Калі так, якім чынам?**

— Праца аб'яднанняў абнята конкурсам. Плануем арганізаваць восенню імпрэзу для перадавых аб'яднанняў пад назвай «згадуй - згадуля». На гэтай імпрэзе правядзем падсумаванне працы паасобных аб'яднанняў. Найлепшыя атрымаюць узнагароды.

Гутарыў — М. КУРАШ

# СА СТАРОГА І НОВАГА ЛЯУКОВА

Ужо многа год існуе крама ў Старым Ляўкове. У ёй не раз змяняліся прадаўцы. Дзесяць год таму была выбрана жыхарамі вёскі новая прадаўшчыца, вясковая дзяўчына, Марыя Рэент. Марыя Рэент вельмі дбае аб сваю краму, у ёй заўсёды чысціня і парадак. Яна нават на адну хвіліну не спозніцца да працы. Дзякуючы Марысі (так найбольш яе завуць), яе клопатам і руплівасці крама заўсёды забяспечана свежым і добрым таварам, тут усё можна купіць. Усе вельмі задаволены сваёй прадаўшчыцай, якой даверылі працу ў краме. Жадаем Марыі Рэент і далей карыстацца гэтым даверам.

На вёсцы найлепшым госцем бывае пісьманосец. Усе яго чакаюць з вялікай нецярплівасцю. Ад яго ж атрымоўваем лісты, часопісы, пасылкі. Жыхары Новага Ляўкова вельмі здаволены сваім пісьманосцам Янкам Пекарскім са Старога Ляўкова. Ён не звяртае ўвагі на надвор'е і дбае, каб як найхутчэй даставіць лісты і часопісы. Наш пісьманосец аддана працуе. Ахвотна наладжвае падпіску «Нівы» і другіх газет. Усе жыхары Новага Ляўкова ўдзячны Я. Пекарскаму за яго ветлівасць і сумленнасць у працы.

ЯНКА ЦЯЛУШЭЦКІ

# Чын пагадзіў

Жыхары вёсак Лысыя і Плюцічы мелі пашы адна пры другой. Яны часта сварыліся, таму раз адны, раз другія пускалі каровы на суседнюю пашу. Знайшліся «мудрэйшыя» гаспадары і пагадзілі суседзяў. Паміж пашамі жыхары вышэй указаных вёсак выкапалі роў і зрабілі бетонавы мост. Усё гэта было зроблена чынам. Цяпер суседзі не сварацца, іх чын пагадзіў.

«ЦІКАВЫ»

## РЭФЛЕКСІІ НАД СУЧАСНАСЦЮ ВЁСКІ

# У ЛЯШЧЫНАХ ГР

Вы, чытач, мабыць не былі ў Ляшчынах ніколі. Магчыма, што нават наогул аб іх і не чулі. Бо і чаго ж там? Ляшчыны не выдалі на свет нікога са славутых прарокаў, знахароў, ці варажбітаў, не адбыліся тут ніякія вялікія падзеі, словам — нічога, што магло б праславіць Ляшчыны ў народзе.

Гэтая малая, зусім звычайная вёска, закінутая далёка ад галоўных трактаў Гайнаўскага павета.

Наведаць, аднак, Ляшчыны варта. Вось хаця б паглядзець на ядлоўцы. Не пасароміўся б іх ніводзін з Еўрапейскіх батанічных садоў. Манументальныя, купчатыя растуць яны вышэй найвышэйшых ляшчынскіх дамоў: за вёскай, каля хат, пры вуліцы.

Ляшчыняне пільнуюць іх перад усялякім знішчэннем, у перакананні, што, каб не яны, Ляшчыны даўно ўжо былі б завеяны пяскамі.

Малыя, «закінутыя» вёскі можа толькі краявідам розняцца адна ад другой. Жыццё ў іх зусім падобнае.

Насаджаныя купкамі малых хат сярод шырокіх палёў, жывуць яны ціха і спакойна. Шырокія палі толькі на нейкі час адкрываюцца для шырокага свету. Прыходзіць асенняя слота, зімовыя завеі, веснавыя растопы, і малыя вёскі становяцца недаступнымі.

У разгары лета няма калі думаць аб нудзе. Аднак прыходзіць зіма са сваімі кароткімі днямі і доўгімі вечарамі. Пакрываючы пушыстымі шапамі снегу дрэвы, хаты і ўсю вёску, прыводзіць яна ўсё ў зімовую летаргію. Жыццё становіцца лянівым і вялым.

Малая вёска мае свае малыя падзеі. Часам Максім п'яны з горада прыедзе і з жонкаю сварыцца, часам да Ганулі прыедзе з чужой вёскі хлапец. Аб усім доўга расказваюць суседзі.

Радзей даходзяць цікавыя весткі з шырокага свету: што ў вёсцы Р. муж жонку забіў, што ў П. павесіўся хлапец, што цуд у Варшаве. Нажаль цудаў так мала ў апошні час, і таму ў Ляшчынах так нудна і маркотна.

Раптам, пад весну:... быццам гром з яснага неба Па вёсцы і бліжэйшай аколіцы разыходзіцца хвалюючая вестка: у Ганулі вяселле.

Нельга сказаць, што нашая вёска не цікавіцца лёсам сваіх дзяцей. Будучае вяселле абмяркоўваецца доўга ўсімі. Разглядаюцца ўсе яго добрыя і кепскія бакі і, зразумела, гаворыцца толькі аб кепскіх.

Нягледзячы, аднак, на ўсё, набліжаецца першы акт: старыя традыцыйныя заручыны спалучаныя з цырымоніяй нашых дзён, з цывільным шлюбам.

Па пясчанай вуліцы цяжка сунуцца «маторы», заікваюцца і зарываюцца. Падробленыя пад мяшчанак «дамы» ў «шпільках» дрэпчуць па пясчаным моры, каля хаты здымаюць абутак і вытрасаюць

## У дапамогу мастацкай самадзейнасці

СТЭФАНІЯ ГРАДЗЕНСКАЯ

# ПРЫГОЖЫ ЎЧЫНАК ТОМАША КОТАКА

(гумарэска)

Уся Варшава з Новага года ў стане небывалага ўздыму. Малады чалавек Томаш Котак уступіў месца ў трамваі якойсьці бабулі!

Даведаўшыся аб гэтым, я адразу ж узброілася рэпарцёрскім блакнотам і паімчалася туды, дзе жыў Томаш Котак. Ужо здалёк я пазнала гэтае месца. Перад домам шумеў людскі натоўп, які сабраўся вітаць героя. Кардон міліцыі ахоўваў спакой піянера ветлівасці. Спецыяльна створанае Бюро пропускаў выдала мне дазвол толькі на заўтрашні дзень, бо на сёння ўсе пропускі былі забраніраваны для замежных дэлегацый, прадстаўнікоў прафесіянальных саюзаў, артыстычных арганізацый, польскага радыё, а таксама кінахронікі.

На наступны дзень з самага ранку я была ўжо на месцы і пасля двухгадзіннага чакання ў чарзе мела гонар сустрэцца з самім Котакам. Прывыкшы да трэску фотаапаратаў і святла пражэктараў, я ўсхвалявана паглядзела на гэтага надзвычайнага грамадзяніна. З першага позірку яго можна было прыняць за самага звычайнага маладога чалавека, якіх мы тысячамі бачым на вуліцах нашых гарадоў. Аднак варта было толькі прыгледзецца да яго, як у вочы кідалася незвычайная высакароднасць яго твару.

Калі я ўвайшла, герой незадаволена ўсклікнуў:

— Зноў інтэрв'ю!..

— Што натхніла вас на такі ўчынак? — нясмела запытала я.

— Адкажу, нічога не ўтойваючы. Было гэта першага студзеня. У гэты навагодні дзень я прачнуўся з цудоўным намерам зрабіць што-небудзь прыгожае, сэрца маё было перапоўнена цяплом і жаданнем рабіць людзям дабро... Я падумаў: «Томаш Котак, пачні новы год учынкам, які надоўга застанецца ва ўдзячнай памяці сучаснага чалавецтва!»

— Вы так падумалі? — прашаптала я, ашаломленая.

— Ага, менавіта так! І я пакінуў дом, цвёрда рашыўшы не варочацца назад, пакуль не здзейсню свайго намеру зрабіць прыгожы ўчынак. Гэтай першай раніцай новага года я адчуў, як любоў к людзям і імкненне да найвышэйшага самаахвяравання проста распіраюць мяне. Калі б былі адчынены магазіны, я зайшоў бы ў першы на маім шляху «Гастраном», купіў бы вэнджаную паляўнічую каўбасу і падарыў яе, не называючы свайго імя, першай сіроцінцы, якая б сустрэлася мне... Ах, як я марыў аб тым, каб якое-небудзь дзіця трапіла пад аўтамабіль, а я б яго ўратаваў, нават калі б мне давялося касьцьмі легчы... Я стаяў на трамвайным прыпынку з надзеяй, што лёс злітуецца нада мной і дасць мне магчымасць здзейсніць добрыя намеры, якія перапаўнялі маё сэрца. І якраз у тэты час падышоў трамвай...

— Які нумар? Вы не прыпомніце? — усхвалявана запытала я.

— Гэтага я ніколі не забуду. Гэта быў васемнаццаты нумар...

Голас яго пры гэтым задрыжэў, але праз хвіліну Котак авалодаў сабой і працягваў:

— У трамваі раптам з'явілася свабоднае месца. У выніку кароткай стычкі з некалькімі другімі маладымі людзьмі гэтае месца захапіў я. Але тут я заўважыў, што побач са мною стаіць бабуля...

Усе прысутныя затаілі дыханне... Котак, забыўшыся на ўсё і на ўсіх, працягваў:

— Я, напэўна, не звярнуў бы ўвагу на такую штодзённую карціну, калі б не той унутраны голас, які напомніў аб сабе вось тут, — ён тыцнуў пальцам у гузік на кашулі, — тут, у сярэдзіне. Гэты голас закрычаў: «Томаш Котак! Ты шукаеш выпадку, каб зрабіць прыгожы ўчынак, а тут перад табою стаіць бабуля....»

Далей усё было, як у сне... Я не ведаю, як гэта адбылося. Прашу, даруйце мне — мне цяжка гаварыць аб гэтым без хвалявання...

Ён выцер нос і выпіў вады. У пакоі панавала напружаная цішыня. Стомлена трашчалі фотаапараты і скрыпелі вечныя пёры рэпарцёраў.

— І тады... — дагаварыў ён ледзь чутна, — я ўступіў ёй месца.

— Як вы гэта зрабілі? — шэптам спытала я.

— Я ўстаў і сказаў: «Сядайце».

Дзве слязінкі сарамліва пакаціліся па маім твары. Але, счакаўшы хвіліну, я перастала саромецца сваіх слёз. У пакоі выбухнуў усеагульны плач. Мацней за ўсіх рыдалі мужчыны.

**Пераклад з польскай мовы І. РАЛЬКО**

## У МАСТАЦКІХ ГУРТКАХ



Выканаўца частушак з мастацкага гуртка ў Баршчэве Ніна Палоцкая.

Фота: Г. Рагазінскі

# ...ЫМІЦЬ ВЯСЕЛЛЕ

пясок... Потым сталы застаўленыя водкай і закускай, пажаданні маладым, тосты...

Падхмеленыя галовы збіраюцца ў купкі, і пачынаюцца заўзятыя спрэчкі. Адна аб цане коней і сёлеташнім ураджаі, другая аб новай «Яве», трэцяя аб палітыцы і мастацтве. Аж недзе каля паўночы аб'яднае іх звонкая песня «Ой, пры лузе, пры лузе», зводзячы ўсіх з крутых шляхоў іх жыцця на зямлю дзяцінства і ранняй маладосці. Але загучыць так, каб агеньчык у газавай лямпе, пыхнуўшы і падскочыўшы некалькі разоў угору, знік у цемнаце ночы.

Маці запаліць яго зноў п'янымі рукамі. Без злосці, з усмешкай на губах. Яна ж задаволена, што здабывае такую радню.

Праз два дні вяселле. Адбудзецца яно са сваімі абрадавымі формамі, са старымі песнямі і прыпеўкамі, з заплаканай у вэлюме маладой, з караваем з «гускаю» і з «прыданнай» курыцай.

Пачынаецца вясельная забава. Збіраецца на яе моладзь, з усяе аколіцы ў радыусе да 8 кіламетраў. Пачынаецца яна зусім звычайна: грае аркестр, танцуюць вясельныя госці, прыходзіць моладзь з вёскі. З часам, аднак, танцавальны дом папаўняецца, шторааз больш п'яных, штораз больш незнаёмых твараў, штораз грознейшыя позіркі і помрукі, больш задзірлівыя штуршкі. Урэшце авантура: хтосьці кагосьці стукнуў, хтосьці зваліўся на падлогу, пахаваліся ў куткі дзяўчаты, задзірліва насцеражыліся хлопцы.

Над далейшай «праграмай» каманду абнімаюць вядомыя ў аколіцы забіякі і хуліганы.

*

Прыходзілася не раз пабываць тут і там у нашых вёсках, паглядзець, як гуляе моладзь. Вясковая забава — гэта ў пэўным сэнсе ізнешняе выяўленне агульнай культуры вёскі. Гэта пэўны праяў духоўнага жыцця моладзі.

У мінулае адышлі тыя часы, калі на кожным фэсце ці большай забаве ў нашых вёсках мусілі кагосьці зарэзаць або падрэзаць, калі разбойніцкая бадзёрасць трактавалася як праяў мужчынскай сталасці і адвагі.

Штораз часцей на забавах і гульнях верхаводзіць малады, поўны ветлівасці, галантных тонкасцей і «добрых манер» — юнак. Авантурныя, хуліганскія элементы або падпарадкоўваюцца агульнапрынятым нормам, або вогуле не паказваюцца.

Пад напорам новай культуры жыцця хутка і няўхільна змяншаецца «поле дзейнасці» моладзі, якая адзінай меркай сваіх дасягненняў, сваёй амбіцыяй лічыць колькасць пабітых шыб і справакаваных скандалаў. Дадзены ў артыкуле вобраз гульні сустракаецца ўжо даволі рэдка, але ў найбольш «забітых» вёсках можна яшчэ сустрэць.

**РЫГОР ПАЎЛЮК**

# А ТУТ ЯШЧЭ КАПЦІЛКА

Храбустоўка нічым асаблівым не адрозніваецца ад іншых шматлікіх вёсак. Раскінулася яна ля шашы, што ідзе з Нарвы ў Гайнаўку.

Каб перачакаць дождж, я зайшоў у мясцовую краму. Гэтая крама такая, як дзесяткі іншых вясковых крам. Невялікі драўляны будынак, напалову перагароджаны прылаўкам. Прадавец, пабачыўшы чужога чалавека, хутчэй апрануў белы фартух, а мужчыны, што частаваліся віном, спешна «высушылі» толькі што адкаркаваную бутэльку і пайшлі дамоў.

Чорныя хмары, нізка завісшыя над зямлёй, паглыблялі ранні вячэрні змрок. Дзе-ні-дзе вокны ў хатах загарэліся ясным святлом электрычных лямпачак. У краме таксама стала ўжо цёмна. Прадавец зыцягнуў з-пад прылаўка закапцелую газоўку.

— А што, папсавалася ў вас святло? — не мог устрымаць я сваёй цікавасці.

— Яшчэ горш, — з якойсьці злоснай усмешкай адказаў прадавец, запальваючы газоўку. — — У нас не было чаму псавацца.

— Як гэта разумець?

— Запытайце ў нашых улад — у праўленні ГС-у ў Нарве. Мо' яны вам растлумачаць, як гэта трэба разумець. Мы ўжо тры гады так мучымся пры газоўцы. Ад пачатку адкрыцця гэтай крамы. Праўленне ГС-у вогуле не хоча нам дапамагчы. Будынак на краму жыхары нашай вёскі пабудавалі ўласным промыслам. Прывязлі дрэва з уласнага лесу, парэзалі яго, сабралі грошы на неабходнае абсталяванне, заплацілі майстру. ГС не далажыў нам ніводнай залатоўкі. Нават шпалер, якім абклеены сцены, купілялі мы за свае грошы.

У краму нейкая жанчына прынесла яйкі. Прадавец запаліў свечку і пад яе святло пачаў праглядаць прынесеныя яйкі, каб упэўніцца, ці няма сярод іх папсутых. Нармальна робіцца гэта пры дапамозе спецыяльнай электрычнай лямпы. Праверка тады больш дакладная ды праходзіць яна хутка і спраўна. А тут, у Храбустоўцы, ва ўсіх хатах зіхацяць электрычныя лямпачкі, вуліца таксама (часам) асветленая электрычнасцю, і толькі ў адной краме вячэрні змрок аджыўшая ўжо газоўка.

Ці ж гэта не дзіўна?

Старшыня ГС-у аўтарытэтна сказаў:

— Крама ў Храбустоўцы, — гэта не пастаянная, вясковая крама, а толькі падсобны пункт продажу. Будынак, у якім змяшчаецца гэты пункт, не з'яўляецца нашай уласнасцю. Мы не можам даць на гэтую краму ніводнай залатоўкі.

— Добра, але вы выкарыстоўваеце гэты будынак, які з'яўляецца ўласнасцю вёскі, і нічога за

(Працяг на стар. 7)

# УМЕЛА ВЫХОЎВАЦЬ ДЗЯЦЕЙ

Выхоўванне дзяцей — самая важная галіна нашага жыцця. Нашы дзеці — гэта будучыя бацькі і маці, яны таксама будуць выхавальнікамі сваіх дзяцей. Нашы дзеці павінны вырасці цудоўнымі грамадзянамі, добрымі бацькамі і маці. Але і гэта — не ўсё: нашы дзеці — гэта наша старасць. Правільнае выхаванне — гэта наша шчаслівая старасць, дрэннае выхаванне — гэта наша будучае гора, гэта — нашы слёзы, гэта — наша віна перад іншымі людзьмі, перад усёй краінай.

Дарагія бацькі, перш за ўсё вы заўсёды павінны памятаць аб вялікай важнасці гэтай справы, аб вашай вялікай адказнасці за яе...

Перш за ўсё звяртаем вашу ўвагу на наступнае: выхаваць дзіця правільна і нармальна значна лягчэй, чым перавыхаваць. Перавыхаванне патрабуе і больш сіл, і больш ведаў, больш цярпення, а не ў кожнага з бацькоў усё гэта знойдзецца.

Можна, напрыклад, рашуча сцвярджаць, што выхаванне адзінага сына або адзінай дачкі — куды больш цяжкая справа, чым выхаванне некалькіх дзяцей. Адзінае дзіця вельмі хутка робіцца цэнтрам сям'і. Клопаты бацькі і маці сканцэнтраваныя на гэтым дзіцяці, звычайна перавышаюць карысную норму. Вельмі часта адзінае дзіця прывыкае да свайго выключнага становішча і робіцца сапраўдным дэспатам у сям'і. Для бацькоў вельмі цяжка бывае затармазіць сваю любоў да яго і свае клопаты, і мімволі яны выхоўваюць эгаіста. Таму трэба вельмі ўмела яго выхоўваць. Бацькі павінны мець аўтарытэт у сваёй сям'і, у сваіх дзяцей.

Аб усім гэтым кожны з бацькоў павінен мець зусім яснае ўяўленне.

Вашы ўласныя паводзіны — самая рашаючая рэч. Не думайце, што вы выхоўваеце дзіця толькі тады, калі з ім размаўляеце або павучаеце яго, або загадваеце яму. Вы выхоўваеце яго ў кожны момант вашага жыцця, нават тады, калі вас няма дома. Як вы апранаецеся, як вы размаўляеце з іншымі людзьмі і аб іншых людзях, як вы радуецеся або сумуеце, як вы абыходзіцеся з сябрамі і з ворагамі, як вы смяецеся, чытаеце газету, — усё гэта мае для дзіцяці вялікае значэнне. Самыя нязначныя змяненні ў тоне дзіця бачыць або адчувае, усе павароты вашай думкі даходзяць да яго нябачнымі шляхамі, вы іх не заўважаеце. А калі дома вы грубыя або выхваляецеся, або п'янствуеце, а яшчэ горш, калі вы зневажаеце маці, вы ўжо робіце велізарную шкоду вашым дзецям, вы ўжо выхоўваеце іх дрэнна, і вашы недастойныя паводзіны будуць мець самыя сумныя вынікі.

Бацькоўскае патрабаванне да сябе, бацькоўская павага да сваёй сям'і, бацькоўскі кантроль над кожным сваім крокам — вось першы і самы галоўны метад выхавання!..

Сапраўдная сутнасць выхаваўчай работы заключаецца зусім не ў вашых размовах з дзіцём, не ў прамым уздзеянні на дзіця, а ў арганізацыі вашай сям'і, вашага асабістага і грамадскага жыцця і ў арганізацыі жыцця дзіцяці. Выхаваўчая работа ёсць перш за ўсё работа арганізатара.

# ЧЫТАЙЦЕ ХЕМІНГУЭЯ!



**У выніку няшчаснага выпадку загінуў (2.VII. 1961 г.) Эрнэст Хемінгуэй — вялікі амерыканскі пісьменнік. Смерць яго выклікала глыбокі жаль ва ўсім свеце. З яго цудоўнымі творамі, як: «Бывай, зброя»!, «Снягі Кіліманджара», «Сонца таксама ўзыходзіць», «Стары і мора», «Каму звоніць звон» варта пазнаёміцца. Творы Хемінгуэя з вялікай цікаўнасцю чытаюцца. Праз іх праходзіць чалавечая мужнасць. За гэта і любяць пісьменніка чытачы ўсяго свету.**

# ПАДАГРЭТАЯ ШАША



Шмат непрыемнасцей ствapae на аўтамабільных дарогах снегапад. Заносы часам поўнасцю спыняюць рух. Для расчышчвання дарог і вуліц зроблена многа снегаачышчаючых машын. Яшчэ цяжэй змагацца з галалёдзіцай.

Дзе-ні-дзе робяць электрычныя «коўдры». Унікальная коўдра ў некалькі метраў шырынёй і кіламетры даўжынёй была ўложана восенню на аўтастрадзе, якая вядзе з Лондана ў заходнім напрамку. У таўшчыні дарожнага пакрыцця зігзагам пракладзены дрот, па якім можна прапускаць ток. На падагрэтай такім спосабам шашы не можа ўтварыцца галалёд, бо хутка растае.

## СУМЧАТЫЯ МЯДЗВЕДЗІ



У лясах Усходняй Аўстраліі жывуць сумчатыя мядзведзі — каала. Большую частку жыцця каалы праводзяць на дрэвах, рэдка спускаюцца на зямлю. Жывяцца яны галоўным чынам лісцямі і пупышкамі дрэў. Каштоўны мех каалы даўным - даўно прыцягваў увагу паляўнічых, таму засталося іх вельмі мала. Так і зараз, калі перад носам спячага мішкі пстрыкнуў фотаапарат, ён адкрыў толькі адно вока.

## КУХОННАЯ СОЛЬ

■ Каб праверыць, ці свежае яйка, апусціце яго ў моцны раствор солі (200 г солі на шклянку вады). Сапсаванае яйка будзе плаваць на паверхні, а свежае апусціцца на дно.

■ Калі распальваюць сырыя дровы, іх паліваюць газай або бензінам. Але ж гэта небяспечна. Насыпце жменю буйнай солі на дровы, і яны ярка ўспыхнуць.

■ Дно прыгарэлай каструлі пасыпце соллю і пакіньце на некалькі гадзін. Пасля гэтага прыгарэлае месца лёгка ачышчаецца.

**АБ ЧЫМ ДОБРЫ ГАСПАДАР ВЕДАЦЬ ПАВІНЕН**

# ЗЯЛЁНУЮ ПАШУ НА ПРАДВЕСНІ

Добры гаспадар павінен ведаць, што зялёная паша патрэбна жывёліне не толькі летам, а і зімою, і на прадвесні. Як зрабіць, каб яе мець у гэтыя пары года. На зіму вельмі добрыя сіласы, прыгатаваныя з паплёнаў (мы аб паплёнах пісалі). Сёння хочам расказаць аб сеянні азімых паплёнаў, з якіх можна карыстаць у красавіку і маі.

На азімыя паплёны надаецца рэпак, кармавое жыта, выка азімая з жытам і пшаніцай. **Рэпак дае самую раннюю пашу. Касіць яго трэба ў красавіку перад зацвітаннем. А сеяць найлепш у палове жніўня.** Высяваць 10—15 кг. насення на гектар. Пажадана ўвосені ўгноіць пасеў фасфорна - патасовымі ўгнаеннямі, а на вясну — азотам.

**Жыта на зялёную пашу збіраецца перад тым, як яно закаласіцца — у 1 палове мая.** Найлепш сеяць жыта Пулаўскае або Чэхніцкае. Яно пазней расце ў сцябло і пазней дзеравянее. **Высяваць 200 кг. на гектар у канцы жніўня — на пачатку верасня.**

Найлепшы азімы паплён, гэта аднак мяшанкі з касматай азімай выкай. Вясною, калі цяжка з добрай пашай, мяшанка дае многа багатай бялком зялёнай масы. Азімыя мяшанкі даюць часта столькі пашы з гектара, як гадавы плён чырвонай канюшыны. Але плён мяшанак залежыць ад часу высеву. І таму запомніце: **на нашых землях мяшанкі трэба сеяць у другой палове жніўня.** вл

# МОДА

СПАДНІЦЫ.



# А ТУТ ЯШЧЭ КАПЦІЛКА

(Працяг са стар. 5)

карыстанне не плоціце. Ці ж сапраўды ГС не мог бы знайсці ў сябе тысячу злотых? (Толькі менш-больш будзе каштаваць залажэнне электрычнай інсталяцыі).

— Там, дзе знаходзяцца падсобныя пункты продажу, мы не маем права праводзіць ніякіх капіталаўкладанняў. Каб у Храбустоўцы змяшчалася нармальная нашая крама, тады святло залажылі б мы там ужо даўно.

— У чым жа справа? Пераіменаваць тады падсобны пункт на нармальную вясковую краму і рукі ў вас будуць развязаныя.

— І гэтага зрабіць мы не можам. Вясковая крама, каб была вясковай крамай, яна мусіць мець не менш 35 тысяч зл. месячнага абароту тавараў. А ў Храбустоўцы выпадае ў сярэднім усяго ледзь 18 тыс. зл.

— Атрымоўваецца тады так, што крама (прабачце — падсобны пункт продажу) у Храбустоўцы ў далейшым будзе з'яўляцца аб'ектам адсталасці і напамінаць навакольным хлебаробам аб тым, што і яны calісьці праводзілі вечары пры капцілках.

Старшыня Нараўскага ГС бязрадна разлажыў рукі.

— Мы нічога не можам зрабіць. Змаглі яны самі пабудаваць гэты будынак, чаму ж не могуць залажыць у ім святла? — падсказаў ён.

А дзе тады падтрымоўванне грамадскага чыну?

Тут нельга бязрадна раскладаць рук.

Вуэр

СКАРГІ І ПРАПАНОВЫ

# ПАТРЭБНЫ ДРУГІ ЧАЛАВЕК

Белавежскі запаведнік з яго навуковымі ўстановамі і сама белавежская пушча са сваёй непараўнальнай і незабыўнай прыгажосцю, незалежна ад пары года, прыцягвае штораз больш наведвальнікаў. А ў Белавежу дарога вядзе выключна праз Гайнаўку. Зрэшты, сама Гайнаўка стаецца адным з важнейшых прамысловых цэнтраў на Беласточчыне.

Прызнакам значэння Гайнаўкі з'яўляецца, між іншым, безупынна растучая колькасць сродкаў руху. Зматарызаваныя людзі на чатырох і двух колах цесна запаўняюць вузенькія вуліцы Гайнаўкі.

Гэта стварае штораз большае запатрабаванне на бензін. А тым часам Гайнаўскую станцыю ЦПН абслугоўвае толькі адзін чалавек. Нічога тады дзіўнага, што перад ЦПН-ам у Гайнаўцы заўсёды вялікая чарга. Пакупшчыкам прыходзіцца чакаць тут амаль гадзіну, каб купіць, напрыклад, некалькі літраў бензіну або пляшку змазачнага масла. Адзін і той самы чалавек прымае перш за ўсё грошы ад некалькіх пакупшчыкаў, затым замыкае касу і ідзе выдаваць гаручае. Гэта вельмі тармазіць працу. Тут павінна быць другая асоба, якая толькі прымала б грошы, або толькі выдавала б гаручае. Так, зрэшты, працуюць усе станцыі ЦПН падобнага тыпу, як у Гайнаўцы.

Другі чалавек патрэбны яшчэ і таму, што прадавец з гайнаўскай станцыі ЦПН можа, напрыклад, захварэць або па іншым прычынам адсутнічаць у працы, а тады што? Што тады маюць рабіць тыя шафёры, якім скончыўся запас гаручага? Другой бензінавай станцыі ў Гайнаўцы няма.

Адказны за гэтыя справы прадстаўнік дырэкцыі ЦПН у Беластоку выясніў коратка:

— Другога чалавека на гайнаўскай станцыі паставіць не можам. Не маем чым плаціць. Нас абавязвае ашчаднасць.

Ашчаднасць? На чым? На людскім часе, на здароўі? З тым пагадзіцца нельга.

Бензінавая станцыя ў Гайнаўцы з'яўляецца адзінай у цэлым павеце. З яе паслуг карыстаюць і сельгасгурткі, і спулдзельчыя трактарысты, і прыватныя ўласнікі механічных сродкаў руху. Станцыя ЦПН у Гайнаўцы ўжо зараз патрэбна людзям, як крама з хлебам, з запалкамі і цукрам. Ды значэнне яе ў жыцці Гайнаўскага павета расце і будзе расці з кожным днём. Таму не павінна быць абыякавым тое, як яна працуе, як выконвае сваё прызначэнне.

Спадзяемся, што дырэкцыя Беластоцкага прадпрыемства продажу нафтавых прадуктаў у Беластоку передумае сваё становішча, і незадоўга бензінавую станцыю ў Гайнаўцы будзе абслугоўваць дзве асобы.

вр

# СВЯТЛІЦА Ў ЛАСІНЦЫ

Прайшло два гады ад тае пары, калі ў Ласінцы пачалася будова грамадскай святліцы і стражацкай рэмізы. Дзякуючы «хуткасці» будаўнікоў гэтая будова будзе працягвацца два, а то і больш, гады.

Жыхары вёскі Ласінка, як толькі пачулі пра будову святліцы і рэмізы, многа працавалі: навазілі жвіру, камення, зрабілі фундамент, а таксама шмат дапамаглі пры пачатковай будове.

Дождж і іншыя атмасферныя фактары нішчаць сцены, падаюць рыштаванні, а матэрыялу, каб закончыць будову, няма. Моладзь з Ласінкі пазглядае на гэтую будову і чакае з нецярпеннем, калі ж урэшце будзе святліца, дзе можна будзе праводзіць культурна свой вольны ад працы час.

Жыхары Ласінкі (моладзь і старэйшыя) просяць як найхутчэй закончыць ужо даўно пачатую будову святліцы і рэмізы стражацкай.

**Янка Раманюк**
Ласінка



# ЛЮДЗІ ШУКАЮЦЬ БЯДУ

### УТАПІЛАСЯ Ў ВЯДРЫ

Мар'я і Ян Нікіцюкі ў вёсцы Падбеле ў Бельскім павеце перажылі нядаўна вялікае няшчасце. У іх трагічна памерла дзевяцімесячная дачушка Алінка. Бацькі знаходзіліся на працы ў полі. Алінка заставалася дома адна без ніякага догляду. Дзіцё, вядома, як ртуць, на месцы не ўсядзіць, яму ўсё цікавае — тым больш, што Алінка пачынала ўжо хадзіць. Яна, поўзаючы па падлозе, заглядвала да ўсялякай хатняй пасуды. Між іншым пацікавілася вядром напоўненым вадой. Ухапілася Алінка за край вядра, узнялася на ножкі і, падцягнуўшыся вышэй, нізка павісла над вадой. І тут бедная Алінка не змагла ўтрымацца слабымі сваімі ручкамі. Яна нырнула галоўкай на дно вядра, залілася вадой і ўжо не магла сама выбрацца з няшчаснага вядра. Бацькі, вярнуўшыся з працы, знайшлі яе ўжо мёртвай.

### САМАГОНШЧЫКІ ПАД АБСТРЭЛАМ

Падзяка належыцца міліцыянерам пастарунку МО ў Ліпску (Дуброўскі павет) за спраўна праведзеную аблаву за самагоншчыкамі. За адзін дзень выкрылі яны чатырох самагоншчыкаў, якімі аказаліся: Браніслава Багінская з вёскі Пагожын Ст., Браніслаў Станкевіч з вёскі Кур'янкі, Міхась Ралевіч (сын Міхася) і Міхась Ралевіч (сын Язэпа) з вёскі Панарліца. Міліцыянеры знішчылі амаль сто літраў розчыну падрыхтаванага да прадукцыі самагонкі і забралі самагоначную апаратуру.

### РАЗБОЙНІКІ ПАД ЗАМКОМ

Павятовы пракурор у Саколцы прыказаў часова арыштаваць Віталіса Сідарава, Яна Юзэфовіча і Мікалая Карубейнікава з Крынак у Сакольскім павеце за тое, што яны цяжка пабілі лекара з Крынак — Генрыка Чарноўскага.

**П. БЯДА**

# СУПОЛЬНА ЗАЎСЕДЫ ЛЕПШ

Існуе Міжнародная канвенцыя сацыялістычных дзяржаў, задача якой — супрацоўніцтва і ўзаемная дапамога ў барацьбе са стонкай.

На базе гэтай канвенцыі ў бягучым годзе была арганізавана прыгранічная камісія Беластоцкага ваяводства і Гродзенскай вобласці з той жа задачай.

З боку нашага ваяводства камісію прадстаўляе Аддзел сельскай гаспадаркі ВРН. З боку Гродзеншчыны — адпаведная ўстанова.

Працу сваю камісія праводзіць у трох адрэзках. І — быў у чэрвені — 3 дні камісія была ў нас, 3 дні на Гродзеншчыне; ІІ — у ліпені таксама па тры дні і ІІІ — будзе ў жніўні.

На Беласточчыне маем цяпер 6000 палёў, заражаных стонкай, і колькасць небяспечнага шкодніка ўзрастае з кожным годам. Напрыклад, у мінулым годзе ў гэты самы час было яго значна менш, а першыя жукі стонкі ў нас паявіліся ў 1953 г.

У БССР пагроза ад стонкі значна меншая. Там, зрэшты, вядзецца з ёю непрымірымую барацьбу. Хімічнымі сродкамі апыльваюцца ўсе бульбяныя палі. Апыльванне праводзіцца з самалётаў. У адной толькі Гродзенскай вобласці 6 самалётаў прызначана для гэтага.

Стварэнне супольнай прыгранічнай камісіі — крок вельмі разумны і важны. Па-першае таму, што супольна яно заўсёды лепш, па-другое — нашаму ваяводству, дзе гаспадары не дацэньваюць небяспекі стонкі, вельмі прыдасца прыклад Гродзеншчыны.

**вл.**

(Працяг са стар. 3)

Мінай згадзіўся, і наступнай раніцай Кравец, Вяткін і Лёва Сегаль пакінулі лагер. Ужо сцямнела, калі яны дабраліся да Суража.

Дзейнічаць трэба было быстра. Перабежкамі, а дзе і паўзком партызаны дабраліся да лагчыны ззаду ваенкамата, пералезлі праз плот і апынуліся пад вокнамі аднапавярховага дома. У ім цяпер і жыў Васіль Фаменкаў. Партызаны вырашылі закідаць дом здрадніка гранатамі. Падкраліся да вокан, прыслухаліся, — цёмна і ціха.

— Давай ты, — шапнуў Кравец Вяткіну. — У выпадку чаго я прыкрыю...

Вяткін кінуў гранату. Было чутна, як «лімонка» пакацілася па падлозе, а потым рвануў узрыў, які асвятліў на імгненне стол пасярод пакоя, люстра ў чорнай раме на сцяне і электрычную лямпачку пад столлю, якая загойдалася на шнурку.

Другую гранату кінуў Кравец.

Узрывы гранат адразу паднялі гітлераўцаў на ногі. На вуліцы

63

пачуліся крыкі, затраскаталі выстралы.

Партызаны і хлопчык кінуліся да Дзвіны, дзе іх чакала раней падрыхтаваная лодка.

Васіль Фаменкаў цяжка перажыў напад. Праўда, ён не быў ні ранены, ні нават аглушаны — гэту ноч, як і шмат іншых, здраднік правёў у гестапа. Аднак напад партызан так падзейнічаў на яго, што ён захварэў нервовым расстройствам і падняўся з пасцелі толькі праз тры тыдні.

Дацэньваючы заслугі Васіля, камендант адвёў для яго новы дом на цэнтральнай вуліцы, непадалёку ад Касплі. Для асабістай аховы Фаменкава было вызначана пяцера паліцэйскіх.

Здраднік замяніў свой дом у крэпасць: абнёс яго высокім частаколам, прыладзіў тоўстыя дубовыя акенніцы, прымацаваў да дзвярэй шмат розных засавак. Але, відавочна, ведаў, што гэта не выратуе яго: з гэтых пор стараўся яшчэ радзей адлучацца з гестапа.

(Працяг за тыдзень)

64

# КІНО

**Праграма на трэці тыдзень жніўня**

**ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ**

**Навасады**
„Historia współczesna" (polski)

**Нараўка**
„Niewysłany list" (ZSRR)

**Кляшчэлі**
„Wyznanie hochsztaplera Feliksa Krulla" (NRF) i „Gorączka w El Pao" (franc).

**Чыжы**
„Decyzja" (polski)

**Чаромуха**
„Ząb rekina" (ZSRR) i „Ucieczka przed cieniem" (CSR).

**Нарва**
„A jednak cię kocham" (ZSRR)

**Белавежа**
„Słońce świeci dla wszystkich" (ZSRR) i „Królewna ze złotą gwiazdką" (CSR)

**БЕЛЬСКІ ПАВЕТ**

**Орля**
„Teresa Raquin" (franc.)

**Боцькі**
„Szatan z siódmej klasy" (polski)

**Гродзіск**
„Mężczyzna w spodenkach" (ang.)

**Браньск**
„Pies przy klawiaturze" (węgierskiej) i „15,10 do Yumy" (USA)

**СЯМЯЦІЦКІ ПАВЕТ**

**Драгічын**
„Spotkali się w pociągu" (ZSRR) i „Podróż za ocean" (ZSRR).

**Мілейчыцы**
„Miasto bez wody" (ZSRR) i „Rozstanie" (polski)

**Нурэц**
„Ali Baba i 40 rozbójników" (franc.) i „W masce i bez maski" (koreański)

**Мельнік**
„Królowa Margot" (franc.) i „Miłość należy cenić" (ZSRR)

**БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ**

**Супрасль**
„Pierwsza lekcja" (bułg.) „Czerwony atrament" (węg.)

**Міхалова**
„Ząb rekina" (ZSRR) i „Ucieczka przed cieniem" (CSR)

**Гарадок**
„Legenda o lodowatym sercu" (ZSRR) i „Gorączka w El Pao" (franc.)

**САКОЛЬСКІ ПАВЕТ**

**Шудзялава**
„Biała krew" (NRD)

**Крынкі**
„Premiera odwołana" (NRD) i „Szczęściarz Antoni" (polski)

**ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ**

**Новы Двор**
„Cafe pod Minogą" (polski)


**Ніва**

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 25-89, centrala 37-41 do 49.

Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2.40 zł, kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma.

Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wilcza 46 Nr konta PKO 1-6-100024

Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ „Ars Polona" Warszawa Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP Warszawa 2-6-51 Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4,70 $ w Europie; 5 $ — w USA.

Nakł. 5000. Błtk. B-2




# СУЧАСНЫЯ РАДАСЦІ

Скінуўшы са сваіх плячэй годзікаў пяцьдзесят, людзі пераканаліся б, што ў мінулым на працягу ўсяго жыцця былі ў сялян два асноўныя святы — вяселле і хрэсьбіны, у час якіх мелі яны магчымасць парадавацца.

Калі не лічыць гэтага, дык наогул сялянскае жыццё круцілася аднастайна, быццам тая сячкарня.

Часам вясковай вуліцай праязджаў земскі чыноўнік і тады сяляне здалёк скідалі шапкі, каб не ўгнявіць начальства. Не цікавілася тады гэтае начальства ні хлявом ні нівай.

Сёння другі час настаў. Вось сусед вяпрука выкарміў. Здавалася б звычайная справа, але не тут то было. Суседавага вяпрука наведаў заатэхнік. Агледзеў яго з усіх бакоў, як жаніх нявесту, пасля памераў, узважыў, спісаў анкету на яго ды гаспадара і выехаў. Засумаваў сусед. Вядома, ад службовых паперак селяніну мала радасці.

Прайшоў месяц. Клічуць суседа ў павет. Заходзіць ён да павятовага начальства, а там сялян з другіх вёсак, як зярнят у гурку. І падумайце, мілыя чытачы, пачалі раздаваць сялянам узнагароды. Каму за барана, каму за карову, а суседу за вяпрука выплацілі грошы, пажадалі поспехаў у далейшай жывёлагадоўлі і дамоў адпусцілі.

Вярнуўшыся, сусед ад радасці расцалаваў і жонку і вяпрука. І хоць вяпрук абыякава ўспрыняў гэтую ўзнагароду, на душы ў суседа было сапраўды радасна.

Кум мой, Ігнат, кукурузу пасеяў. Вычытаў недзе як гэту каралеву даглядаць, і вырасла ж яна лесам. Калі кумава жонка пачынала лаяцца, ён хапаў пінжак і ў кукурузу. Рассцеле пінжак і спіць у кукурузнай цені пакуль жонка не прыдзе да формы.

Аднойчы так яго спячага ў кукурузе аграном сустрэў. Ён паглядзеў на кукурузу, памераў, палічыў качаны на сцябле, зярняты і пачаў запісваць. Аб чым пісаў аграном, куму пытаць нязручна. Спаў жа ён у рабочы час, баба якраз а поўдні разышлася.

Пасля кума таксама ў павет выклікалі. У павеце кум стараўся ўступаць у размову з другімі сялянамі ды разузнаць, хто з іх спаў на ніве. Не паспеў ён нічога даведацца, як пачалі ўзнагароды раздаваць. Каму за грэчку, іншаму за лёндаўгунец, а куму за кукурузу ўзнагарода дасталася.

Вярнуўся кум дадому з гонарам, хацеў падзяліцца радасцю з жонкай, а яе ў хаце няма. Тут кум на сцяне дыплом пабачыў. За ўзорную чысціню ў хаце Ліга Жанчын узнагародзіла яго бабу дыпломам і электрычным чайнікам. Стаіць гэты чайнік на стале і нахабна адбівае ў нікелі кумаў выцягнуты ад здзіўлення твар.

Як бачыце, мілыя грамадзяне, жыццё цяпер такое, што сялянам зусім не хапае часу ў пагоні за падобнымі радасцямі.

*Дзядзька Лявон*

### СЯБРОЎСКАЯ ДАПАМОГА



— Да Кавальскага? У справе аліментаў? Не, такі ў нас не працуе...

### У доктара

Пацыент, якога доктар дакладна праслухаў, пытае:

— Скажыце, што ў мяне?

— Многа п'еце і курыце, — адказаў доктар.

— Дзякую, — адказаў пацыент. — А цяпер скажыце гэта на лацінскай мове, каб я мог паўтарыць жонцы.

**С. Ю.**

### ДАСЦІПНЫ

— Дзеду, ці вы маеце зубы?

— О, сынок, ужо даўно вываліліся, усе.

— То патрымайце мае арэхі, я пабягу яшчэ нарву.

**А. МАКАЛЬ**
Крушынячы




### ХВОРАЯ ЖОНКА

— Калі вы заўважылі, што вашая жонка хворая? — пытае доктар мужчыну.

— Учора, пане доктар, бо калі я вечарам прышоў п'яны, то яна ўжо не сварылася.

### ЗАКРАСА ДА МЯСА

Едзе мужык дарогай. Насустрач яму пан:

— Куды, мужык, едзеш?

— У горад.

— Чаго?

— Купіць закрасы да мяса.

— Дурань жа ты, мужык, якая можа быць закраса да мяса?

— Эх, пане, усякі ж дурань ведае, што без солі і мяса нясмачнае.

Скрывіўся пан, як мыла з'еўшы, і паехаў сваёй дарогай.

**Васіль Фірсовіч**
Відава

### У ШКОЛЕ

Настаўнік да вучня:

— Калі найлепш зрываць яблыкі?

— Як ніхто не бачыць.

**Віктар Баран**
Палічна

### ЧУЛАЯ ВАГА

— Скажы мне, Янка, няўжо я важу шэсць пудоў?

— Зусім магчыма, характар у цябе вельмі цяжкі.

**Юрка Скепка**
Альхоўка

### НЕ ВЕДАЕ

— Паглядзі, мама, гэты чалавек не мае ні аднаго валаска на галаве, — кажа 5-гадовы Коля.

— Не крычы так галасна, бо яшчэ пачуе, — адказвае маці.

— То ён яшчэ аб гэтым не ведае? — здзівіўся Коля.

**Янка Здаsucceeded**

## Пра лайдака і кнопкі

Ёсць ва ўстановах дзе-нідзе
Аматары «памарыць»...
Такі вам будзе цэлы дзень
Разводзіць тары - бары!

«Пры камунізме, мілы мой,
Не трэба бегчы ў краму.
Заўсёды кнопкі пад рукой
І кранцікі, і краны.

Вось будзе, брат, лафа так жыць
Адно, займеўшы кнопкі,
На ложку ты сабе ляжы
І пі, і еш, хоць лопні.

На кнопку «К» націснуў — раз!.
І, вось само, брат, дзіва:
Ліецца з крана хлебны квас,
На «П» націснуў — піва.

Перабірай за кранам кран.
Згубіў — пакажа стрэлка:
Дзе кнопка «Нар». — там, знай, нарзан,
Дзе кнопка «Гар». — гарэлка.

Падсілкавацца зажадаў?!
Дык божа! Калі ласка!
Каб толькі кнопку адшукаў —
І яйкі, і кілбаска.

Ніякіх тут табе клапот.
Рот разяўляй старанна
І будуць прыгаць самі ў рот
Блінцы ды са смятанай.

Каб для навук не траціць час
І каб не быць бястлумным,
На кнопку «Раз», націснуў раз —
І раптам стаў разумным.

Калісь настане дзень такі,
На ўсё ў нас кнопка будзе.
Адно вось толькі лайдакі
Бясплённа чэшуць языкі,
Калі працуюць людзі.

Браткі! Такіх вось лайдакоў.
Што знаюць толькі «марыць»,
З працоўных нашых установ
Ганіце прэч у карак.

**Генадзь Кляўко**



— Ну дзе ж такі пачуе крытыку знізу!



— Калі ён у кепскім гумары, дык удае, што не бачыць маіх прыяцеляў.



Начальнік на адпачынку.